# Блеф и тщета куртизанок

**Александр ДУБРАВИН**

*Окончание.*
*Начало в №№ 56-60*

## На хуторе. Без хлеба и гранат

Итак, избирательная кампания вышла на финиш. Минск засыпан предвыборной макулатурой. Читая ее, понимаешь, как низко упал в нашей стране авторитет высшей законодательной власти. В отсутствие настоящих, сильных и профессионально подкованных кандидатов, достаточно образованных для работы в парламенте, в палатку нынче лезет и клоп, и жаба, и змея. Собственно, ничего удивительного в этом нет. Если уж Лукашенко смог стать президентом, то почему бы Васе Пупкину не стать законодателем в его органе?

Выбора нет, несмотря на изобилие. На каждом избирательном участке присутствует кандидат от власти, иногда слегка закамуфлированный под независимого, иногда откровенно пролукашенковский. Обычно это государственный служащий или государственный бизнесмен. Встречаются всякого рода полковники со стертыми лицами, похожими на заслонки; упитанные директоры каких-то объединений с глазами наподобие пятаков; отупевшие от собственной ненужности и невостребованности депутаты нынешней палатки, которых, однако, почти все избиратели принимают за новичков. Им обычно противостоят случайные люди, выглядящие на своих избирательных листовках как хронические неудачники. Их бледные нездоровые лица свидетельствуют о недоедании и бытовых лишениях, их программы нелепы, их рецепты всеобщего счастья наивны, глупы или агрессивны. Вот, например, корявый православный фундаменталист, церковный предприниматель (!) с Законом Божьим (!) в руке, декларирует духовность, веру и любовь. А также публикует многословный традиционный плач о порушенной вере и отечестве. (Все это еще ничего, если бы фамилия духоборца не была **Черт**ович и если бы он не был широко известен в судебных инстанциях как один из изготовителей человеконенавистнической подлой книжонки «Война по законам подлости»). Вот какой-то усатый человек без опознавательных знаков (кто? откуда? зачем?) ксерокопирует подписи в свою поддержку, среди которых выделяется подпись борца Медведя. Вот «практик, теоретик, организатор, общественный деятель, разработчик и т.д.» с положительным, но абсолютно неизвестным публике лицом (угадай, кто я!). Вот милая дама, которой надоело просиживать стулья в затхлой атмосфере своего научно-исследовательского института, обещает, что «если вы на выборах скажете ДА, то ее двери «всегда будут открыты для вас» (какие двери имеются в виду и есть ли за теми дверями муж, дама не уточняет). Вот, в листочке, приклеенном за стеклом аптеки на проспекте, один невыразительный человек, называющий себя экономистом, утверждает, что в страну ввозятся доллары, а вывозятся неисчислимые богатства...

На этом фоне госпожа Абрамова (сама руская, по матери татарка, по фамилии еврейка, с корнями из Ашхабада, страдающая хронической фобией белорусского языка, автор диссертации «Гуманизм насильственной задачи (!) социалистической революции») выглядит настоящим профессионалом уже хотя бы потому, что ее листовка вычитана, грамотно сверстана и отпечатана на лучшей полиграфической базе. Любительство, самодеятельность, примитив, неискренность, стремление к халяве царят сегодня на избирательных участках. И это в столичных округах! Можно представить,что творится на периферии. Каких кандидатов там вынесло на поверхность избирательной кампании? О чем они вещают?

Между тем предвыборная канализация, хотя и с натугой, но открылась и на чикинском телевидении. И оттуда хлынуло! Началось то убогое действо, за необходимость которого так рьяно ратовали коммунисты и отщепенцы демократического лагеря. И что же? Осуществился ли перелом в умах людей после их пламенных выступлений? Увы, перелом не случился, рейтинги их не выросли, зато случились кое-какие сюрпризы. Коммунист Калякин, например, откровенно вляпался в одно произведение местных телехудожников и выглядел на экране полным идиотом в компании не совсем здоровых людей. (У лидера ЛДПБ Гайдукевича хватило ума и здравого смысла избежать этого позора, о чем он потом с радостью и удовольствием рассказывал). Но одна неудача, как известно, настоящего коммуниста остановить не может: ему нужна диалектика. И товарищ Калякин появляется в студии вместе с членами «могучей кучки» Абрамовой и Новосядом, где выглядит предметом интерьера на фоне возбужденной Абрамовой. Мы, кстати, почему-то не услышали от них предполагаемой убийственной критики нынешней власти. Зато в изобилии были оправдания, самооправдания и критика...оппозиции. Зачем, дескать, она не участвует? Так ведь уже много раз было сказано...




Сейчас кандидаты реализуют свое право на трехминутные телевыступления. Их запускают в эфир тогда, когда потенциальные избиратели телевизора еще не смотрят, потому что именно в это время они возвращаются домой после работы или бегают по магазинам в поисках дешевого пропитания. (Я, признаться, тоже не видел ни одного выступления по этой же причине. И не чувствую себя обделенным).

Короче говоря, фантазии по поводу свободного обращения к белорусскому народу при помощи казенного телевидения оказались, как и ожидалось, полностью несостоятельными. И если положить на одну чашу весов все вместе взятые выступления всех бывших оппозиционеров, легших под нынешнюю власть, по БТ, а на другую – одно пятиминутное выступление на ОРТ Шушкевича и Добровольского с призывом бойкотировать выборы, то оно перетянет всех их примерно так, как пудовая гиря перетягивает мешок мух. Другое дело, что выступление по российскому телеканалу для белорусских демократов – редчайшее событие. И нет сомнений, что эту ложку дегтя в лукашенковскую бочку затем зальют тонной сладкого вранья по поводу выборов в палатку. Уже на следующий день, словно отыгрывая промах своей телекомпании, московский «отзимок», ведущий передачи «Однако» (человек наглый, еще достаточно молодой и не живший взрослым при коммунистах), выпучив глаза, начал пужать публику кознями Америки, восхвалять коммунистические порядки, привычно наврал про демократов, обругал белорусскую оппозицию, вступился за нашего узурпатора и чего-то такое нафантазировал про счастливую жизнь белорусских ученых.

Учитывая то, что этот дегенеративный малый сидит иногда возле Путина и получает инструкции из Кремля, можно предположить, что это и есть официальная точка зрения Москвы на нынешнее положение в Беларуси, стыдливо подаваемая в эфир через «выпученного». Продолжается старая лицемерная политика Кремля. Российская Дума, несмотря на обновление состава, по сути своей осталась прежней, о чем свидетельствует ее последнее заявление по поводу выборов в Беларуси. Путин, на которого некоторые наши политики стали возлагать неоправданные надежды как на просвещенного монарха, просто пудрит мозги Западу своими речами. Возможно, что в душе он не такой мерзавец и шовинист, как, скажем, некоторые завсегдатаи российских коридоров власти, но он, безусловно, – основная деталь всей алчной, жестокой и подлой имперской государственной системы. И наивно ожидать от него проявлений порядочности или реализации заявленных демократических принципов.

Именно с Путиным связаны тайные планы некоторых кандидатов в депутаты, служащих режима, а также политиков, вылетевших из списков претендентов и называющих себя «третьей силой». Суть их расчетов вот какова: Лукашенко себя исчерпал, его время подходит к концу. Он, кстати, требует слишком многого от Москвы за сдачу суверенитета, высказывает различные претензии, выставляет условия. Нужно собрать дружную банду прилично одетых мерзавцев, состоящую из номенклатурной братии, и продать Родину за одну лишь гарантию власти. А Лукашенко отодвинуть в сторону, на пенсию. Если надо, то поделиться и с ним. Тогда руки развяжутся для приватизации, для легитимизации и получения кредитов на Западе. Приватизацию сделать для себя, кредиты немедленно разворовать по российской технологии, а объединение в одно государство все спишет.

Вот такая у нас нынче политика и такие у нас нынче деятели. Вот откуда все эти попытки расколоть демократическую оппозицию, оболгать ее, обмануть, подставить, обокрасть. Вот откуда эти кандидаты в депутаты с непонятными целями, интриги и предательство. А мы после этого удивляемся, что господин Вик, посторонний человек, который год напряженно трудится над лишением нашей страны суверенитета.

Именно в этом ракурсе рассматривается вопрос о грядущих президентских выборах. Нужен кандидат, который устроил бы Москву и был бы привлекателен в глазах общественности. Все остальное – дело технологии и российских денег. Поэтому попытки продвинуть какого-то кандидата в качестве единственного от демократических сил в обход объединенной оппозиции должны рассматриваться как авантюра, чреватая полной оккупацией страны.

Я не склонен обвинять в подобных злых кознях создателей комитета «Выбор 2001» (г.г. Середича, Грушевого, Нистюка, Шлындикова, Щукина, Погоняйло, Ванину, Подгола), презентация которого состоялась на днях. Более того, я искренне уважаю их всех как людей, неравнодушных к судьбе Родины и много сделавших для нее. Заявленная ими цель – способствовать появлению белорусского Коштуницы вызывает искреннее уважение. Но для чего создавать еще одну общественную структуру, если вся работа будет состоять из подготовки для газет материалов о возможных кандидатах? Может быть комитет нужен, чтобы получить денежную помощь на Западе? Организаторы категорически отвергают это предположение. Тогда остается догадка, что комитет займется поиском денег на Востоке. Остается догадка, что комитет создан под конкретного человека, а вся суета с другими кандидатами – для отвода глаз. Остается догадка, что организаторы хотят присвоить себе право выступать от всей общественности и принимать от ее имени решение. Возникает масса вопросов, на которые пока никто ответить не может. Например, почему, создавая новую структуру, организаторы считают своим долгом откреститься от политических партий, называя себя «представителями общественности», если добрая половина из них члены различных партий?

Особо поразило меня то обстоятельство, что на пресс-конференции, посвященной созданию комитета, его организаторы (а среди них было несколько претендентов на звание кандидата в палату №2) как большой личный успех подавали то обстоятельство, что им удалось собрать несколько десятков тысяч подписей в миллионном городе. Они хвастались этим как большим достижением, хотя каждый из них уже добился в жизни определенного успеха и признания. Господин Середич – талантливый, если не сказать гениальный, редактор газеты для трудящихся масс. Господин Грушевой – непревзойденный профессионал по части оказания гуманитарной помощи пострадавшим от чернобыльской катастрофы. Господин Нистюк – великолепный партийный организатор, человек, который может вежливо объяснить журналистам все, что угодно, за исключением необходимости членам партии идти на эти выборы, и т.д. Во всяком случае эти многократные ссылки на собранные подписи и есть, по-видимому, главный итог участия некоторых политиков в лукашенковских выборах. И вот теперь для сохранения лица им приходится оправдываться, объясняться, упрекать, придумывать комитеты, заострять внимание на пустяках и преувеличивать. Так зачем было огород городить? А ведь еще не вечер. Что там будет после голосования?

Вот, пожалуй, и все. А теперь, читатель, угадай с двух раз: нужны эти выборы лично для тебя или нет? ■

## НАРОДНАЕ МЕРКАВАННЕ

**1. Калі б зараз зноў праводзіўся рэферэндум па сімволіцы, за які б сцяг вы прагаласавалі, бела-чырвона-белы ці зялёна-чырвоны?**
**2. Які герб вам больш даспадобы, «Пагоня» альбо цяперашняя «капуста»?**


Віталь ГАРБУЗАЎ, студэнт ІСВ

— Я б галасаваў за той сцяг, які мне падабаецца, за бел-чырвона-белы, бо гэта наша гісторыя, гісторыю ствараў не Лукашэнка!

— Герб «Пагоня» існуе яшчэ з часоў Вялікага Княства Літоўскага, і я не думаю, што адзін чалавек у праве рушыць гэтую гісторыю.


Імя не назваў, чыноўнік

—Бел-чырвона-белы – сімвал беларускай дзяржаўнасці, таму я б галасаваў за яго. Гэта сцяг Вялікага Княства Літоўскага, інакш кажучы старадаўняй Беларусі, дый, здаецца, Полацкага Княства.

— «Пагоня» па тых жа прычынах.


Людміла, дэпутат ВС

— Мой выбар – бел-чырвона-белы сцяг, бо зялёна-чырвоны сцяг неэстэтычна выглядае ў плане спалучэння колераў. Гэта, па-першае, а па-другое, гэта ж усё савецкія сімвалы, навошта яны нам патрэбныя?

— Тое ж самае датычыцца гэтага «вянка», ці, як вы сказалі, «капусты». Толькі «Пагоня» і нічога болей! Гэта наша рыцарскае мінулае, гэта наша сувязь з Еўропай, гэта нашы законы, якія былі першыя ў Еўропе!

Марына, спецыяліст па імпарце-экспарце з камерцыйнай фірмы

— Шчыра кажучы, асабіста для мяне гэта не вельмі істотна. Але як жанчына я люблю колеры такія кантрастныя, яркія. Таму, калі думаць аб гусце, то мяне б задаволіў чырвона-бела-чырвоны.

— «Пагоня», калі так можна сказаць, больш удалы сюжэт.


Ліля, прафесію не назвала

— Той флаг, каторы зараз ёсць. А чаму – не знаю. Бела-красна-белы аскарбіў бы мае чуства.

— А герб мне тожа нравіцца каторы цяпер. І Лукашэнка тут ні пры чом. Усё, спасіба.

Галіна Анатольеўна

— Зялёна-чырвоны, ці, як ён там, чырвона-зялёны... Бела-чырвоны ў мяне з вайной асацыюецца. З здрадай нейкай. Але я дакладна не ведаю, як было б правільна.

— Мне «Пагоня» больш падабаецца, прыгожы герб. І спалучэнне з зялёна-чырвоным сцягам.


Кацярына, навучэнка

— Этот меня больше устраивает. Этот, это который сейчас, но вообще я об этом много не думала.

— Да как-то всё равно, знаете ли. Не думаю я об этом.


Анатоль

— За зялёна-чырвоны я.

— Я б пакінуў што зараз, а то мяняць, грошы траціць...


Уладзімір, студэнт архітэктурна-будаўнічага коледжа

— Бел-чырвона-белы. Ён мне значна больш падабаецца.

— Ну, лагічна, што я за «Пагоню», куды ж «капусту» да бела-чырвонага сцяга?!




Дзяніс, урач-стаматолаг

— Якая на фіг розніца. Справа не ў сімволіцы, справа ў веры. Сімвал значэння не мае, галоўнае, гэта верыць. І яшчэ мае значэнне ідэя, а чым яе падпісваць – не важна.

— Аналагічна.

**Апытанне праводзілі Аляксей ШЫДЛОЎСКІ і Уладзімір ШЛАПАК (фота).**

# Лялечны тэатр у Гродне

## Памочнік прэзідэнта С.Посахаў агітаваў за сакратара абкома КПБ

Сяргей МАКСІМОВІЧ

**Сёння ў вертыкалі няма большага клопату, як «забяспечыць галасаванне». Іншымі словамі — любым чынам загнаць людзей на ўчасткі, каб выбары адбыліся. Хаця, як добра вядома, ва ўсім свеце выканаўчыя ўлады не маюць дачынення да правядзення выбараў, гэта не іхні клопат. У кожнай акрузе сярод кандыдатаў абавязкова ёсць і стаўленікі саміх уладаў.**

У Гродна нядаўна прыязджаў прэзідэнцкі памочнік С.Посахаў. Сімвалічна, што выступаў ён у тэатры лялек, куды сабралі кандыдатаў у дэпутаты палаты ды «актыўных выбаршчыкаў». Сп. Посахаў расказаў пра «стратэгію і тактыку» і заклікаў публіку галасаваць за аднаго канкрэтнага кандыдата: «Карыстаючыся гэтай трыбунай, я хацеў бы звярнуць вашую увагу на такога кандыдата ў дэпутаты, як Гірас Георгі Аляксандравіч. Дырэктар буйнога прадпрыемства. Не па чутках ведае аб праблемах эканомікі. Дэпутат Гродзенскага гарадскога савета некалькіх скліканняў. Першы сакратар абкама кампартыі Беларусі. Ён аб'яднаны з іншымі кандыдатамі, якія вылучаныя ад партыі і якія ў фракцыі будучага парламента змогуць прадстаўляць інтарэсы простага народа ўсёй рэспублікі».

Вось такая супер-рэкламная характарыстыка. Хоць сп. Посахаў шмат гадоў пражыў у Гродне, ён, аднак, памыляецца. Камбінат «Тэамантаж», якім кіруе Г.Гірас, — «гэта, — цытую апошні нумар газеты «Вечерний Гродно»,—невялікае прадпрыемства... Літаральна некалькі вытворчых памяшканняў, дзе вырабляюць сцэнічнае абсталяванне». Навошта было прэзідэнцкаму памочніку рабіць са свайго пратэжэ «дырэктара буйнога прадпрыемства»? Тым больш у лялечным тэатры, у якім найлепш ведаюць, што такое «Тэамантаж». Вялікага знаўцу эканомікі рабіць з чалавека, які займаецца ўсяго толькі сцэнічным абсталяваннем тэатраў і дамоў культуры, таксама было наўрад ці мэтазгодна.

Але, як бачым, для Посахава вельмі важна было, што Гірас — першы сакратар афіцыйных камуністаў у Гродзенскай вобласці. Гэта няцяжка зразумець, калі ўлічыць, што адміністрацыя з К.Маркса, 38 па некаторых звестках мела непасрэднае дачыненне да аднаўлення іхняй структуры ў маштабах краіны. Посахаву ўжо наперад нават вядома, што ў палаце будзе асобная фракцыя КПБ. Брава!



Наконт «прадстаўлення інтарэсаў простага народа» таксама ёсць пытанні. У памяці гродзенцаў яшчэ свежы скандал, звязаны з імем таварыша першага сакратара абкама КПБ. Агульны сход працоўнага калектыву «Тэамантажу» сваім часам выдзеліў дырэктару з касы прадпрыемства на асабістае жыллё 14 тысяч долараў. Прычым на вельмі незвычайных умовах. Пагасіць амаль усю пазыку — 87,5% прадпрыемства павінна было само сабе. І толькі астатнія 12,5% сумы абавязвалі вярнуць Г.Гіраса. Прычым на працягу ажно 2 гадоў. На прадпрыемстве, апроч яго самога, тады працавала яшчэ 46 чалавек. Такім чынам, кожны з працаўнікоў па сутнасці скінуўся больш як па 260 долараў дырэктару на кватэру.

Справа трапіла спачатку ў аблвыканкам, а адтуль — у пракуратуру. Было выяўлена, што сп. Гірас меў добрыя жыллёвыя ўмовы. На трох чалавек — вялікую трохпакаёвую кватэру. Але ж прыгожа жыць не забароніш! Атрымаўшы ад роднага прадпрыемства 14 тысяч долараў, даклаўшы да іх яшчэ 4 тысячы, ён набыў на дваіх з жонкай чатырохпакаёвую кватэру агульнай плошчай 82,5 квадратных метраў. А неўзабаве коштам прадпрыемства на новай кватэры быў пастаўлены дырэктару і тэлефон. За яго пазачарговую ўстаноўку рабочым давялося заплаціць яшчэ некалькі сотняў долараў.

І, як бачыце, дырэктар застаўся дырэктарам. Ды яшчэ за ягонае абранне ў дэпутаты агітуе сам прэзідэнцкі памочнік! Відавочна, якую публіку жадае бачыць у сваім кішэнным парламенце прэзідэнцкая адміністрацыя. ■

# «Страшылкі» хваравітага хлопчыка

Віктар ТОМАШ

Учора ў перапынку матча паміж камандамі Беларусі і Арменіі тэлебачанне паднесла аматарам футбола ідэалагічную «страшылку» ў выглядзе чарговай серыі «Тайных спружынаў палітыкі». Гэтым разам распаленая фантазія рэжысёра Азаронка адштурхнулася ад падзеяў 17 верасня 1939 года. Адкрылася «страшылка» выявамі рускіх багатыроў і маршам «Развітанне славянкі». Жаночы голас з часоў расійскай імперыі клікаў Азаронка ў паход, і пад гэты заклік гледачу паказалі паперку з польскага пасольства, якая нібыта ўтрымлівала просьбу не кранаць тэму верасня 39-га. Зразумела, што просьба краіны, якая імкнецца ў NATO і дала прытулак З.Пазьняку, была бязлітасна адхіленая, і Азаронак абрушыў меч помсты на апазіцыю. Яна была абвінавачаная ў антынародным падыходзе да вызвалення заходніх беларусаў з-пад улады «панскай Польшчы». Было расказана пра здзекі над вязнямі ў Картуз-Бярозе і патлумачана для недасведчанага чалавека, што нібыта гэта першы канцлагер у Еўропе, і сюды прыязджалі Гебельс і Гімлер набірацца вопыту забойстваў. Для Польшчы як краіны, якая страціла ад гітлераўскага нашэсця 6 мільёнаў людзей, такі азаронкаўскі каментар сама меншае цынічны здзек. Услед на экране з'явіўся нейкі паліталаг Сяргееў і панёс лухту пра амерыканскія і заходнія планы вярнуць Еўропе дзяржаўныя межы ўзору 1939 года. Адносна прыбалтыйскіх рэспублік, гэта, на ягоную думку, ужо зробленае. На чарзе Малдова. А беларуская апазіцыя зараз імкнецца аддаць Заходнюю Беларусь Польшчы. Разбурыць гэтыя д'ябальскія задумы можа выключна адно — далучэнне Беларусі да Расіі. Інакш на Беларусь паляцяць амерыканскія бомбы і зямля пакрыецца трупамі, што і было праілюстравана здымкамі з часопісаў. Пасля гэтага Азаронак з пафасам кідаў у нейкую лужыну камяні з нумарамі, што павінна было вобразна адлюстраваць разбуральныя дзеянні «дэмакратаў», лаяў старых людзей, геяў (пэўна, з мэтай зацвердзіць сваё лібідо), ухваляў Сталіна, кпіў з моладзі і паказваў начальству, што не любіць «маршы свабоды», скіраваныя супраць рэжыму.



Творчыя сродкі няшчаснага кінааматара ўбогія, як у таго Гебельса, што прыязджаў у Бярозу: слова праўды – пяць słоў хлусні. Сапраўды, лагер у Бярозе быў страшны. Але гэта не лагер смерці, якіх тысячамі набудаваў Сталін, і ўжо ніяк не Курапаты, дзе савецкія карнікі расстралялі сотні тысячаў невінаватых людзей. Сапраўды, палякі закрывалі цэрквы, але пасля таго, як усе цэрквы былі зачыненыя ў Савецкай Беларусі, а бальшыня святароў расстраляныя ці сасланыя ў лагеры смерці на Поўнач. Сапраўды, у верасні 1939 года ў Заходняй Беларусі людзі сустракалі Чырвоную Армію з надзеяй на лепшае жыццё. Але ўжо ў лютым 1940 цягнікі павезлі ў Сібір і Казахстан першыя 50 тысячаў заходнебеларусаў, а ў красавіку яшчэ 24 тысячы. У тым жа красавіку стралялі ваеннапалонных у Катыні. Сапраўды, межы мяняліся, бо СССР пачала вайну з Фінляндыяй і адхапіла ў яе ладны кавал. Мяняліся і беларускія межы, у 1944 годзе любімы Азаронкам Сталін аддаў Польшчы Беласточчыну. Забыўся расійска-савецкі агітатар і на сумесны савецка-нямецкі парад у Брэсце 25 верасня.

Відочна, што выпуск тэлехлусні прымеркаваны да выбараў. Дзве траціны фільма прысвечаныя менавіта боязі байкоту і абразам дзеячаў апазіцыі, прычым хамскім, з лаянкай, якую дазволіць сабе далёка не кожны пацыент Навінак.

Тое, што Азаронку бог даў мала розуму – не ягоная віна. Тое, што псіхіка ў няшчаснага хворага хлопца скажоная, таксама не ён вінаваты. Але блага, што ТБ эксплуатуе хваравітага чалавека замест таго, каб дапамагчы яму прайсці курс лячэння ў добрым нервовым аддзяленні. Бо беднаму рэжысёру, які, відаць, адчувае сябе ўваскрэслым Алёшам-Паповічам, няўцям, што выглядае ўсё не гэтак гераічна, як яму падаецца ад гукаў расійскага марша. Уражанне, шчыра кажучы, такое, што са сметніка ўзнялася варона, каркнула ва ўсё горла, каб напужаць балельшчыкаў футбола, і шчаслівая вярнулася да пошукаў новай ежы сярод бруду. ■

ГОЛАСНА

# Отстаньте от нас!

Борис САМОЙЛОВ

**Минск, инженер, 39 лет**

«Я — человек законопослушный, и на выборы привык ходить регулярно. Но проходящая избирательная кампания приводит в полный шок. Я может и сам бы вычеркнул многих из кандидатов, но когда за меня это сделали окружные комиссии, то всякое желание идти на выборы отпало. С меня за прошлый месяц взяли одних налогов больше 17 тысяч, да еще в пенсионный фонд — 1.200. Так почему я как исправный налогоплательщик не вправе сам выбрать себе депутата? Кто дал право за меня решать мою жизнь?

Тем более, что достойное существование власть мне совсем не собирается гарантировать. Простой пример. Я воспринимаю возможность пользоваться автомобилем как проявление одной из степеней свободы. А когда 1 литр бензина стоит 500 рублей, то считаю это полным нарушением моих прав как гражданина на свободное перемещение. Разве возможно всю зарплату отдать на заправку старенького «москвича»? У меня дача расположена в ста километрах от города, но добираться туда теперь приходится на общественном транспорте.

Если бы нам честно сказали: «Ребята, потерпите, всем тяжело», — и при этом объяснили честно причины, то, глядишь, мы бы поняли и простили. Но нет, трубят об очередных победах и верности избранного курса. Так и следуйте по нему самостоятельно, а от нас отстаньте! Процентов 70 моих сослуживцев думают так, как я. Те же, у кого в кармане только 300 – 400 рублей на «Крыжачок», будут всегда голосовать за Лукашенко и его сторонников. Человек, покупающий не только вино, но газеты и бензин — голосует совсем по-другому. Поскольку у него есть интересы и способность думать и сравнивать.

Я человек некоренной национальности, и этим все сказано. Когда вижу на стенках за подписью РНЕ «Бей, спасай ...», то меня это не может не задевать. Я живу в Минске на улице Лещинского, там на самом высоком доме РНЕ оставляет свои автографы, и их почему-то никто не закрашивает, а когда внизу кто-то дал характеристику Лукашенко – это сразу же затерли. Та же самая настенная дискуссия разгорелась однажды на школе №201. Звоню директору, спрашиваю, почему не уничтожают антисемитские воззвания? Отвечает — нет денег! Когда появилась надпись против власти — деньги тут же нашлись...

Так вот — не надейтесь, что я за такую власть пойду голосовать!» ■

ЗАХАПЛЕННІ

# Пруць пёры

Кірэй МАНУЙЛА

Мінгарвыканкаму пара патурбавацца тым, што на помнікі сталічнай садова-паркавай культуры ўвосень абрынулася хваля актаў вандалізму.

Хоць, у прынцыпе, тое занадта гучна сказана, бо шкодзяць па-малому і дурнотна. Да злачыннай нарыхтоўкі каштоўных каляровых металаў зусім не падобна. Такое здараецца па ўсім свеце. Прычым стала. Напрыклад, адну толькі славутую капенгагенскую Русалачку датчанам даводзіцца рамантаваць ледзьве не кожныя паўгода.

Спачатку менчукі дужа расстроіліся з таго, што невядомыя зламалі руку і дзіравы парасон металічнай дзяўчыне з Міхайлаўскага скверу. У Мінску гэтую скульптуру начытаная публіка называе па аднайменным вершы Уладзімера Караткевіча «дзяўчынкай пад стронцыем». Але праз тыдзень скульптуру аднавілі. Справа ў тым, што парасон ніхто і не думаў красці. Ну, каму ён трэба, дзіравы? Аказалася, што проста сталічныя студэнты напіліся і, трохі пераззяцаўшыся да скульптурнае прыгажуні ці што, узялі ды зламалі ёй руку. І, кінуўшы непадалёк, уцяклі. Знойдзеную частку цела знайшлі – і аўтар скульптуры прываріў яе на месца.

Таксама дасталося рускаму паэту Пушкіну, але тут ужо чамусьці мала хто са сталічных жыхароў перажывае. У бронзавага помніка Аляксандру Сяргеевічу, што стаіць у раёне гатэля «Беларусь» і цешыць вока збольшага тамтэйшым прастытуткам, спёрлі пяро. Можа, дзеля натхнення ў вершаваных практыкаваннях зноў які-небудзь студэнт. Ці той, хто надумаўся сабраць калекцыю пёраў з помнікаў вядомым асобам. Справа ў тым, што сёлета такі самы выпадак адбыўся ў Празе з нашым Францішкам Скарынам. ■

# Розум-2000

Ян ДЗЯМІДАЎ

Рэклама ў рускамоўных газетах Беларусі сягае ўсё новых вышынь. Зусім нядаўна ўрадавая «Рэспубліка» надрукавала на апошняй старонцы «Список ликвидируемых частных предпринимателей» – і прозвішчы няшчасных.

Дзяржынская бройлерная птушкафабрыка рэкламуе ў «Вечерним Минске» свае сталічныя крамы з назвамі па-беларуску: «Птушыная лаўка» ды «Птушыны пачастунак». Гэта яшчэ можна вытрымаць, але далей згадваюцца крамы «Вырабы з птушкі № 1», «Вырабы з птушкі № 3» ды «Вырабы з птушкі № 5».

Я разумею, што бройлерная фабрыка мае ўсяго тры птушкі, з якіх і вырабляе нешта для мінчукоў, але паўстае пытанне: чаму яны ўсе няцотныя?! Няўжо з цотных вырабілі лаўку ды пачастунак?

І калі пачне працаваць крама «Птушыныя мазгі»? Зрэшты, на гэтае пытанне ўжо адказаў той жа «Вечерний Минск» яшчэ адной сваёю рэкламаю: «Адкрытае акцыянернае таварыства «УМ-79» 11 лістапада ладзіць сход акцыянераў». Засталося дачакацца ААТ «ЧЕСТЬ-85» і «СОВЕСТЬ-91». ■

# Расколатая Беларусь, ці Прыгоды фанатаў у Польшчы

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

У самым пачатку гульні на стадыёне «Відзэў», што ў польскім горадзе Лодзь, дзе сустракаліся нацыянальныя каманды Польшчы і Беларусі, у сектары C1 распачалася масавая бойка. І самае цікавае, што адны з самых «незакамплексаваных» у Еўропе лодзенскія фанаты ўдзелу ў гэтай бойцы не прымалі. Тузаніна адбывалася ў сектары беларускіх балельшчыкаў, і беларусы там «мачылі»... іншых беларусаў. Прычына была палітычная, «гопнікам» і скінам не спадабаліся колеры нацыянальных сцягоў, што трымалі ў руках прыехаўшыя пахварэць за Беларусь бізнесоўцы, працоўныя і інтэлігенты. Палякі назіралі за тым, што адбывалася ў беларускім сектары, спачатку з адкрытым ротам, а пасля з апладысментамі і рогатам. Не без дапамогі польскіх паліцыянтаў сектар умоўна падзялілі на дзве часткі, а Беларусь зноў апынулася ў расколатым стане яшчэ напачатку гульні. У знак пратэсту супраць бойкі, ці проста з боязі за сваё здароўе, маладзёжная зборная Беларусі, што прыйшла паглядзець футбол разам з землякамі, перайшла ў польскі сектар...



## На Польшчу!

Раніцай шостага кастрычніка каля двухсот беларускіх балельшчыкаў пагрузіліся на аўтобусы розных мінскіх турыстычных фірмаў ды накіраваліся ў бок беларуска-польскай мяжы, каб падтрымаць беларускую нацыянальную зборную па футболе ў вельмі адказнай гульні са зборнай Польшчы. У адным з аўтобусаў у якасці звычайнага турыста і з мэтаю адлюстраваць прыгоды на шляху да стадыёна паехаў і карэспандэнт НАШАЙ СВАБОДЫ. У тым, што прыгоды будуць, можна было не сумнявацца. Той, хто ведае асяроддзе балельшчыкаў і можа ўявіць яго ў падобнай турыстычнай паездцы, сам усё зразумее. Але па беларускай тэрыторыі «экіпаж» з 47 чалавек, сярод якіх былі людзі самых розных прафесіяў і відаў дзейнасці, ад ахоўнікаў да следчых міліцыі ці пракуратуры, праехаў даволі спакойна. Нейкія бізнесмены з гонарам дэманстравалі салону «Неаплана» Валодзю, чалавека, які ў чэрвені выйграў пуцёўку на паўфінал чэмпіянату Еўропы па футболе Італія—Галандыя і такі паехаў у гэтую самую Галандыю, нягледзячы на тое, што яму за гэтую пуцёўку прапаноўвалі чатыры тысячы долараў. Гэта яшчэ раз пацвердзіла, што для сапраўднага фана футбол даражэй за любыя грошы. Усе пакрыху спажывалі гарэлку ды смакавалі будучыя перэпетыі гульні, робячы самыя разнастайныя прагнозы. Усе зыходзіліся толькі ў адным: нашы павінны перамагчы. Такую веру ўсяліў у людзей новы трэнер футбольнай зборнай Эдуард Малафееў.

Псаваць нервы пачалі на мяжы. Памятаецца, у газеце «Навіны» друкаваўся артыкул Алега Дашкевіча «Рэпарцёры без межаў», прысвечаны перасячэнню беларуска-літоўскай мяжы. У ім аўтар пісаў, як уначы пасля пераезду мяжы сніў, што ловіць у танкавы прыцэл галовы з зялёнымі капелюшамі памежнікаў. Нешта падобнае пачало набрываць і ў маёй галаве. Хаця наш аўтобус і прыбыў у вызначаны самімі памежнікамі часавы калідор, пасля яны пад рознымі прычынамі мурыжылі наш аўтобус больш за шэсць гадзінаў. Пры гэтым складалася ўражанне, што памежнікі проста кайфуюць, гледзячы, як у турыстаў пакрысе «з'язджае дах». І датычыцца гэта не толькі беларускіх памежнікаў. Крыху зменшыў непрыемнае адчуванне адрэзак памежнага кантролю з крамай *Duty Free*, адкуль.народ скрынямі выносіў якаснае нямецкае піва і танны *Smirnoff*.

Вырваліся з мяжы толькі за сем вечара, злыя, галодныя і з жаданнем тэрмінова наведаць прыбіральню, бо піва (і не толькі піва) было выпіта ўжо зашмат, а апошнія паўтары гадзіны ўсе так моцна баяліся раззлаваць памежніка сваёй адсутнасцю ў аўтобусе падчас ягонага прыходу, што не вылазілі з яго. І вось на нейкай бензакалонцы адразу за Цірэспалем «цуда» адбылося. Крыху пад'еўшы ды наведаўшы платны WC, беларускія аматары спорту патэлефанавалі ў Мінск, ды даведаліся, як згуляла некалькі гадзінаў таму маладзёжная футбольная зборная, і калі стала вядома аб буйной перамозе з лікам 4:0, адразу зразумелі, што ў бліжэйшыя паўгадзіны, як было загадана кіраўнікамі тургрупы, ніхто адсюль не з'едзе. І праўда, святкаванне зацягнулася аж на тры з паловай гадзіны і перайшло ў нешта большае. Амаль пяцьдзесят чалавек «крыху» напружылі гаспадароў кавярні пры бензакалонцы, замовіўшы надта вялікую колькасць спіртовых напояў, ды пасля пачаўшы скандзіраваць лозунгі ў падтрымку беларускай зборнай.

Але, каб трапіць у другі па велічыні горад Польшчы хаця б а трэцяй гадзіне ночы, давялося ахвяраваць шабашам і ехаць далей...

## Лодзь

У горад прыбылі а чацвёртай раніцы, высадзіўшы частку фанаў каля гатэля «Гранд», дзе жылі футбалісты нацыянальнай зборнай. Далей паехалі ў кемпінг *Relax*, што ў прыгарадзе Вішнёва Гура. Давялося прачнуцца недзе а сёмай раніцы і, зірнуўшы ў вакно, убачыць, як група «самых моцных» строем ходзіць па кемпінзе, скандуючы «Жы-ве Бе-ла-русь!..»

Раніца была цяжкай. І таму пасля непрацяглай экскурсіі па горадзе балельшчыкі з нецярпеннем зайшлі ў мясцовы супермаркет, дзе без перавелічэння было ўсё. І на працягу трох гадзінаў беларусы гэта «ўсё» спрабавалі адтуль вынесці, набываючы вялізныя трохлітровыя бутэлькі з французскім вінам і кампактныя пыласосы «Філіпс».

На стадыён падкацілі недзе за дзве гадзіны да гульні. Там ужо збіраліся вялікія групоўкі фанатаў, яўна нядобра да нас настроеныя. Пад суправаджэннем паліцыянтаў беларусы праніклі ў свой, агароджаны з усіх бакоў плотам пад шэсць метраў сектар і пачалі заўзята зрываць горлы, не ведаючы, што ў гэты час робіцца на стадыённым двары. А там фанаты лодзінскага футбольнага клуба «ЛКС» выраспалі адносіны з фанатамі варшаўскай «Легіі». Пры гэтым «заадно» былі крыху разбітыя навакольныя шапікі і беларускія турыстычныя аўтобусы. Мінівайна, якая працягвалася больш за паўгадзіны, была спыненая толькі ўзмоцненымі нарадамі паліцыі, якія прымянілі гумавыя кулі ды газавыя шашкі. Тым часам на стадыёне пачынаўся матч...



Фота Ул. ШЛАПАКА

## Калюжны

Але адразу было зусім не да гульні. «Адмарожаныя», альбо проста хворыя на галаву фанаты дынамаўскага фанклуба «Блю-вайт гэнг», аснову якога складаюць заўсёды п'яныя скіна-РНЕшнікі, пачалі правакацыі ў бок беларускіх балельшчыкаў, што прыехалі з бел-чырвона-белымі сцягамі. Завязалася бойка, спыніла якую толькі раздзяленне фанатаў на дзве часткі і... першы гол, прапушчаны беларусамі. Яго забіў паўабаронца палякаў Радаслаў Калюжны. Перажыванне за родную каманду не пакінула нікога раўнадушным, і ўсе з'ядналіся ў адзіным парыве ў «змаганні» супраць палякаў. І праз некалькі хвілінаў Мікола Рындзюк аднавіў раўнавагу ў ліку, што адрадзіла надзею на добры зыход гульні. Але ў другім тайме палякі вызначылі слабыя месцы беларусаў ды закінулі нам яшчэ два мячы (абодва забіў той жа Калюжны), пахаваўшы беларусаў і выйшаўшы такім чынам на лідэрскія пазіцыі ў групе.

Акрамя самой гульні, хацелася б адзначыць шоу, якое ўчынілі для польскіх балельшчыкаў на стадыёне. Гэта немагчыма перадаць словамі, калі гэтага не пабачыць. Музыка, салют, рознага роду ўрачыстасці і г.д. Варта было б і беларускай федэрацыі футбола пераняць падобны вопыт.

Пасля гульні, зноў-такі пад пільным наглядам паліцыянтаў, мы былі даведзеныя да нашага ўцалеўшага аўтобуса і адпраўленыя дадому.

У прынцыпе гэта быў першы такі масавы выезд беларускіх балельшчыкаў на гульню зборнай у іншую краіну. І гэта дало добры вопыт, бо 24 сакавіка 2001 года нашы паедуць змагацца за месца пад сонцам у Кіеў, дзе нас будзе спрабаваць раскалоць зборная Украіны. І там нашым падтрымка з боку сваіх фанаў будзе вельмі патрэбная.

## Гульня з Арменіяй

Дзвюма ўпэўненымі перамогамі завяршылася двухдзённае супрацьстаянне беларускіх і армянскіх футбольных дружынаў. Спачатку ў рамках адборачнага турніра да маладзёжнага чэмпіянату Еўропы 2002 года нашы хлопцы ўзростам да 21 года літаральна «парвалі» армянскіх равеснікаў з лікам 5:0. І такім чынам працягваюць займаць пазіцыі лідэра ў сваёй адборачнай групе. Нагадаем, у першых дзвюх гульнях наша «маладзёжка» разграміла Уэльс — 4:1 і Польшчу — 4:0.

Нацыянальная ж каманда даволі ўпэўнена, нягледзячы на лік 2:1, перамагла дарослых армянаў. Галы забілі Хацкевіч і Рындзюк. Дзякуючы перамозе нашы набралі ўжо 6 ачкоў. Столькі Беларусь не набірала ні ў адным папярэднім адборачным турніры. Турнірная раскладка таксама вельмі добрая. Лідзіруюць з 7 ачкамі палякі, якія ў апошнім матчы не здолелі на сваім полі ў Лодзі перамагчы Уэльс (0:0). На другім месцы, дыхаючы палякам у спіну, Беларусь і Украіна — па 6 ачкоў. Украінцы ў сераду адолелі ў гасцях нарвежцаў 1:0. У Нарвегіі 2 ачкі, у Уэльса — 2, у Арменіі – 1.

Узнавяцца спаборніцтвы 24 сакавіка 2001 года. ■

# Уражанні Эдуарда Малафеева пасля матча

### Аб гульні ў Лодзі

Тое, што нельга выправіць, з тым трэба мірыцца і хутчэй забываць. Канешне, цяжка псіхалагічна перажываць першую паразу. Але можна сказаць проста – не пашанцавала. Мы гулялі не горш, гэта дакладна. Але палякам дапамаглі родныя сцены і падтрымка трыбунаў. Псіхалогія шмат значыць.

Бачылі вы, як мы прапускалі галы? Тры стандартныя становішчы, тры пенкі варатара і абароны, і ў выніку параза. Вы ж бачылі, мы не адседжваліся ў абароне, і мы будзем гуляць ад атакі і дома і на выездзе, незалежна ад саперніка. Гэта мае крэда.

Толькі не трэба пасыпаць галаву попелам, усё яшчэ наперадзе, і ў гэтым плане вельмі важны матч з Арменіяй. Тут сам Бог загадаў выйграваць, і ўвогуле, аб адзінаццатым кастрычніка можна сказаць «Гэты дзень год корміць».

### Аб іграках

Перажываюць хлопцы, бачна. Канешне, у душу кожнаму не залезеш, але па паводзінах бачу.



Фота Ул. ШЛАПАКА

Крыўдна, што за дзень перад матчам наш асноўны варатар Гена Туміловіч падвярнуў нагу падчас размiначнай гульні ў баскетбол. Давялося ставіць Віталіка Варывончыка, а той падвёў. Перагарэў, мабыць. Але я ў яго працягваю верыць. Хаця ў даным выпадку лепш бы ўжо Васю Хамутоўскага я паставіў... Васілюк не гуляў так, як гуляюць за зборную. Баранаў Вася не глядзеўся зусім, проста зусім. А галоўнае – незразумела, чаму разгубіліся. Варотам амаль не пагражалі, хаця гэта галоўны кампанент гульні. Фалілі шмат, чым выдавалі сваю разгубленасць. Каюся, памыліўся крыху са складам, мая віна ў паразе. Ды што там, прайграе заўсёды трэнер, выйгрываюць жа ігракі. Валік Бялькевіч вось – запас моцы ў хлопца проста вялікі, а ён так і не рэалізоўвае яго на поўную ў зборнай. Можа вяртанне ў склад траўміраванага раней Хацкевіча дапаможа Валянціну. Адну толькі замену ўгадаў – Колю Рындзюка калі выпусціў. Бачылі, які актыўны быў хлопец, гол забіў, а мог запраста і два! Штанюк наступную гульню прапусціць з-за дзвюх картак жоўтых. Можа быць папрасім у трэнера «маладзёжкі» Юры Пунтуса Глеба пад замену выпусціць. Але ўвогуле будзем зыходзіць з таго ж складу, толькі варатара зменім дакладна.

Што датычыцца таго, што не пайшлі пасля гульні і не падзякавалі беларускім балельшчыкам, якія прыехалі падтрымаць іх за тысячу кіламетраў, то проста сорамна мусіць ім было. Можа сказаўся недахоп выхавання.

### Аб судзействе

У мяне прынцып: судзейства не абмяркоўваецца, бо нават калі суддзі не правы, яны ўсё роўна правы. Каб не было спакусы спіхваць няўдачы на судзейскі фактар, трэба быць мацней за саперніка. Вунь «маладзёжка» «пахавала» палякаў 4:0, а судзейства там было ўвогуле нікуды не вартае, горш чым у нас.

### Аб саперніках

Не ўразілі палякі. Мы павінны былі іх абыгрываць. І я думаю, што іх лідэрства цяперашняе – далёка не безумоўнае. Глядзеў гульню Арменія – Украіна, дык там армяне самі вінаватыя, што аддалі ўкраінцам тры ачкі. Яны мусілі іх браць. Пакуль што не разумею, што робіцца з Украінай. Нарвежцы, быццам бы і фаварыты групы, а ўжо два туры запар унічыю бяздарна гуляюць. З Уэльсам толькі на апошніх хвілінах адыграліся. Армянаў жа, я думаю, апасацца асабліва няварта, у гасцях яны заўсёды слабей, чым дома гуляюць.

Я думаю, будзе настрой, будуць і перамогі, не трэба камплексаваць, усё яшчэ наперадзе. ■

Галоўны рэдактар Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана ў друкарні УП «Мэджык»
г. Мінск, ул. Кнорына, 50. Заказ 766 Нумар падпісаны ў друк 12/10/2000 (15:00) Наклад — 9.250